имѣнью Гуторовшизнѣ Подберезью врадъ выводить мѣли и обвѣщенье подали (АВК, XV, 8, 1643). *Парайн.* выдялокъ.

**Выделъ** *наз.* 1. *Выдзел.* отецъ его небожчикъ заставилъ мне земълю свою отчизную, которую вжо отъ братьи своей въ выделе мелъ (АВК, XVII, 339, 1541). *Парайн.* выделенье *ў 2 знач.*

2. *Выдзяленне.* Акторъ, презъ умоцованого своего, домавляючисе выделу части весполъ собе съ пожитками належное, цитовалъ (ИЮМ, IX, 448, 1643); умоцованый позваного, стороны выделу части, которого се акторка домовляетъ, поведилъ (Там жа).

**Выдельчий** ◇ Л и с т ъ  в ы д е л ь ч и й *гл.* листъ.

**Выделяти** *дзеясл. Выдзяляць.* такимъ вдовамъ, которыи вена оправеного отъ мужовъ своихъ не маютъ, дети яко третей части именья выделять не повинни (АВК, XXI, 232—233, 1556—1557); ей, пани... третее части всех имен... за частою реквизыцыею, не хочут и не выделяют (ИЮМ, XXVI, 509, 1679).

**Выдептати, выдобтати** *дзеясл. Вытаптаць, стаптаць.* Станиславъ Стецкевичъ... сеножати мои... покосилъ и жита моего быдломъ выдептати казалъ (АВК, XXI, 343, 1558); наехавши... на именнице мое Блошнинское... плотъ розметали, ярыну потравили, огородные речи выдобтали (АВК, XXII, 160, 1565).

**Выдеранье** *наз. Тое, што і* выдиранье *ў 2 знач.* За выдеране гвоздей зъ кгонту старой ратуши Гришку Агапоновичу дали золот. два (ИЮМ, II, 131, 1684).

**Выдержанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выдержати *ў 1 знач.* мают... двадцать и пять каменей воску... при выдержаныю року на святый Михалъ... отъдати (Пін., 65, 1548); просите, што бы его милость господаръ тое мыто на васъ преложити рачилъ... кгды рокъ выдержаныю аренды выйдетъ, на онъ часъ его королевская милость съ тымъ вчинити рачитъ то, што ся лѣпшого и пожиточнѣйшого его милости господарю въ томъ видѣти будетъ (АЗР, III, 102, 1559); Били намъ господарю чоломъ... мѣщане и все поспольство мѣстечка нашого Липска, абыхмо имъ для потребы мѣстское млынъ... збудовати ихъ власнымъ коштомъ, давши воли на выдержанье за накладъ ихъ, позволили (АВК, XIII, 44, 1580); естли бы хто з близкихъ моихъ, альбо з людей обчыхъ в тые кгрунты, альбо въ которую кольвекъ ниву и во што кольвекъ уступоватися мели, тогды я... отъ кождого таковогo у всякого права и вряду своимъ власнымъ накладомъ, до выштья и выдержанья давности земское десети годовъ, заступовати и очыщати маю и повиненъ буду (АВК, XXIV, 440, 1584); тогды при той маетности арендовной маетъ малжонка моя зостати ажъ до выдержанья тое аренды (ИЮМ, XXII, 276, 1602).

**Выдержати** *дзеясл.* 1. *Пратрымаць на працягу вызначанага часу.* какъ другій годъ выйдеть, ино имъ дати намъ третина



жъ пенязей, а какъ третій годъ выдержать, ино имъ дати намъ достоль пенязей (КЗ, 400—401, 1484); дозволил ему две зиме... корчму вядскую держати... поки он то выдержить и твоя бы милость в тое озеро и корчму не казал никому вступати (Пін., 41, 1522); до которого часу помененый арендаръ выдержати аренду свою спокойне маетъ (АВК, XX, 248, 1617).

2. *Вытрываць, вынесці, цярпліва выслухаць.* тогды балтозарь корол кгодоліе и саба оу летехъ векоу своего во сте и ве двоунадцати выдержавши мшоу предъ оусими людми без болести тамото ѡдпочиноул (Валх., 68); абыс се ѡттуль ꙋчылъ, ꙗкъ великимъ веселиемъ звыклъ пришлые ꙋтрапенꙗ погорожат, которые зъ апостолы длꙗ ісуса выдержымъ (Зб. 255, 49); ꙗкъ же бꙋдеш мочы мукꙋ пекелную выдержати, котораѧ ест далеко горшаа и тꙗжшаꙗ нежели вси мꙋки свѣта сего (Зб. 107, 166).

3. *Вытрымаць, не паддацца цяжкасцям, уціску і пад.* воеводы великого князя Московского... не могучи выдержати моцы Татаръ Нагайскихъ и Черемискоѣ... зъ Астрахани утекли (АЗР, III, 165, 1574); то$^{s}$ великости неприꙗтеле$^{s}$ мѣсто не выдержит (Бельск., 163б).

4. *Выцерпець, сцярпець.* гаѳолиꙗ семи мсце$^{s}$ на панствѣ не выдержавши жидове забили (Біблія, 605).

**Выдеркафовый** *прым. ад* выдеркафъ. хотечи купить вѣчностью, правомъ выдеркафовымъ, учинили есьмо контрактъ (АВК, XI, 113, 1635); припала справа... стороны неучиненья досыть двумъ листомъ записомъ, одному выдеркафовому... на суму 10 000 золотыхъ польскихъ, черезъ зошлого пана войского Троцкого... взятую и на маетность названую Наркушки, Юндилишки и на иншіе внесеную, а другому на долгъ рукодайное сумы 1000 золотыхъ польскихъ черезъ... войскового Троцкого... взятую (АВК, XV, 85, 1663).

**Выдеркафъ** *наз. Выкупное права на нерухомую маёмасць.* законникомъ Кронскимъ оддавать и платить обовезаного выдеркафу (АВК, XV, 85, 1663); жалобливымъ отдавать и платить обовезаного выдеркафу (Там жа, 89).

**Выдернути** *дзеясл. Вырваць, выдраць, выцягнуць.* веселе похлѣбцово до ѡкомгненіѧ... оубежит ѡт зброи желѣзное пробьеть его лꙋкъ сталныи: выдернꙋлъ и вышол съ живота и блискъ з жолчи его водил бы на него страхи (Зб. 262, 20б).

**Выдерство** *наз. Разбой, грабеж, рабунак.* зараз з стародавнымъ народом немецким, товариство и приꙗзнъ, ꙗко приходневе принꙗли, а то длꙗ сполнои здобычи, и выдерства принꙗли, кгдыж жадных способов господарских не знали (Стрыйк., 424б); [за] того то людвика в полщи жадного добра не было, през небытност кролꙗ: ѡдно лупежтва, разбои, и выдерства великие были, и зо всих сторонъ велики$^{s}$ ꙋтискъ в полщи был (Хр. польск., 12б).

**Выдерти** *дзеясл.* 1. *Тое, што і* выдрати *ў* 1 *знач.* кгды чытал перед царем сын нафанов выдерлъ емȣ книги и пошарпал потом и спалил (Бельск., 138б). ◊ **В ы д е р т и п ч о л ы** — *тое, што і* выдрати пчолы. хто выдеретъ бчолы, ино заплатити полкопы (АЗР, II, 27, 1507); хто кому выдерет пчолы нелажоные... тогды повинен будеть за кождые пчолы нелаженые... по полукопю грошей (Ст. 1529, 82—83).

2. *Тое, што і* выдрати *ў* 2 *знач.* на чотыры части ȣже роздѣлено ѡное панство ѡт римꙗн было... третюю мѣл брат рожоны$^s$ филипъ, торию и трахонидȣ, которомȣ жонȣ власнȣю то$^s$ брат ирод выдерлъ (Бельск., 203б); теды крол... тыи вышъ мꙗнованыи мѣста и замки вси з рȣкъ московских выдерши ѡсадил литовским и венкгерским рицерством (Стрыйк., 592—592б).

3. *Вызваліць.* шлꙗхта... ведерли моцю и кгвалтом з вꙗзенꙗ вышеслава (Стрыйк., 459).

**Выдертися** *дзеясл., зв. ад* выдерти *ў* 2 *знач.* созвавши челꙗди спотварила его и рекла ижъ мене моцъю змазат хотѣл тотъ зра$^s$ца иѡсифъ, и тепер мнѣ сꙗ толко з рȣкъ выдерлъ (Біблія, 89—90).

**Выдертье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выдерти *ў* 1 *знач.* атіфа: выдертѧ, або грѣха волосѧ, або кѡсти (Бяр., 240).

**Выдерца, выдирца** *наз. Гвалтаўнік, грабежнік, рабаўнік, разбойнік.* Мечислав крол полски$^s$ выдирцею ѡкрȣтником и срокгим тираном над поддаными был (Стрыйк., 598); Мечиславъ стари$^s$ по брате болеславѣ кȣдравом на монархию встȣпил коронȣю то$^s$ выдерцею ѡкрȣтным и срокгим тираном над поддаными был, и прето его вси проклинали и злоречили (Хр. польск., 9б).

**Выдивитися** *дзеясл. Надзівіцца.* трȣдно хто бы мел тому выдивитисꙗ (Наб. тур., 21).

**Выдидичити** *гл.* выдедичити

**Выдиранье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* выдирати *ў* 2 *знач.* маѯенты$^s$ сын геркȣлиев... жолнером роспȣсности всꙗкои и выдиранꙗ допȣстил (Бельск., 261б); По згȣбе злосливог Никифора... выбрано ест миха$^s$ла коропалата... скоро пановат почал миха$^s$ло го$^s$ностю своею выдиранꙗ и лакомства никифора ѡног переходил (Там жа, 361б).

2. *Адрыванне, выдзіранне.* Ковалю за выдиране подковъ и выбиране рогу коню дерешоватому и коновалу за лекарство дали осм. (ИЮМ, X, 40, 1695). *Парайн.* выдеранье.

**Выдирати, видирати** *дзеясл.* 1. *З сілай выцягваць, вырываць што-н.* азъ рабъ твои внегда пасывах стадо ѡтца своего, прихожаше левъ медведь и взимаше овцȣ ѡт стада, текохъ за ними и выдирахъ ю изъ ȣстъ их (Скар. ПЦ, 37); Студентъ дей уходечи просилъ, абы му далъ покой, и кгды перешолъ мостъ, припалъ до того студента, почалъ пулгакъ выдирать (АВК, VIII, 499, 1608); показаласѧ имъ абіе таѧ невѣста



... жабы страшныи очи еѧ выдирали, з$^s$ оустъ еѧ огнь исходивъ (Зб. вып., 42).

2. *Забіраць, захопліваць, грабіць.* Оуже и влдци львовскомȣ... монастыръ жидичинский... кгвалтомъ наехавши на оный презъ штоурмъ с пролитьемъ крви выдираютъ (Апакр., 212—213); Тогож рокȣ зачаласе во$^s$на жидовскаꙗ з римꙗны наболше$^s$ с причины флорȣса старосты римског которы$^s$ злым и ѡкрȣтным был ȣрꙗдом ѡт нерона над жиды выдирал, забивал, мȣчил (Бельск., 214); тисечи за ним людȣ ходило, а ѡн нѣкоторым выдирал на дорозе и давал што видрал тым што не мѣли (Там жа, 333б); Богдан радецког послал до ивони, ѡттамтолꙗ просꙗчи его абы панства его власног до которог не мае ничого не видирал (Стрыйк., 588); несправедливость абовѣмъ жадаетъ драпѣжити чȣжее, лихвити, выдирати, красти розбивати (Каліст, II, 13б); Способъ грѣшенѧ: Напрыкладъ кгвалтомъ оу кого выдирати што (Навука, 62—63); Кгрекове... чȣжоложство полнили, выдирали, забивали, и нагоршіе вшелѧкіе нецноты вырѧжали (Варл., 241б—242).

3. *Адбіраць, перахопліваць; пазбаўляць.* было на то$^s$ час в мѣсте немало люде$^s$ богатых, которые собѣ посполȣ покармъ выдирали, также ѡтец сынови сын ѡтцȣ, матка дочцѣ дочка матцѣ покармъ выдирали (Бельск., 230); не хочȣ твое$^s$ смр҃ти винъною быть тѣло мое нечистости слȣжит не может, але мчн҃чствȣ может, не выдира$^s$ ми добродеиства того (Пралог, 683б); маючи его за свꙗтого пророка велце чтитъ и важит почали единъ дрȣгомȣ выдираючи и в домȣ своемъ мет хотꙗчи (Там жа, 685—685б).

4. *Адрываць.* урядницы кгродскіи... реляціѣ нашѣ южъ реферованые зъ книгъ выдираютъ (АЗР, IV, 519, 1630).

**Выдирокъ** *наз. Грабеж, рабунак, разбой.* древꙗне з кнꙗжатем своим малдѣдом або низкинею названом почали мислиты штобы чинит мѣли ѡколо тых частых поборов и выдирков (Стрыйк., 440).

**Выдирца** *гл.* выдерца

**Выдобтати** *гл.* выдептати

**Выдованый** *гл.* выдаваный

**Выдовати** *гл.* выдавати

**Выдоватися** *гл.* выдаватися

**Выдовбеный** *дзеепрым. Выдзеўбаны.* Естъ таꙗ гора голгофа крȣгла и невелика, на которо$^s$ ест камен ꙗко могилка невеликаꙗ, ѡкрȣглаꙗ, а на верхȣ тог каменꙗ в выдовбено$^s$ счели крест хв҃ъ был ȣправлены$^s$ моцно (Бельск., 206); тиран в болване сатȣрна в$^s$ выдовбеном, стоꙗчи до невѣсти страшливые слова през певные диры и трȣбы пȣщал (Там жа, 293).

**Выдовбовати** *дзеясл. Выдзёўбваць.* ваѧю,— рию, рѣжȣ, выдовбȣю (Зіз., 24); Извааю — Вырываю, рыю, выдовбȣю, вырѣзȣю (Бяр., 54).

**Выдолбити** *дзеясл. Выдзеўбці.* древо криво и суковъ полно, выдолбеть пильне въ гулѕни своеи (Скар. ПБ, 20).

**Выдоеный** *дзеепрым. Выдаены.* потом бы ел молоко пресное накрывши что теперь выдоено (Арыст., 208—209).

**Выдоптаный** *дзеепрым. Вытаптаны.* виделомъ на томъ Блошневскомъ дворчику избу чорную забраную на возы... плоты коло двору поламаны, ярына выдоптана и выпалено, якобы на полъгоны (АВК, XXII, 160, 1565).

**Выдороженый** *дзеепрым. Збарознены.* Веван: ѕѣница, аб выдороженыи: кривый, або порожнїй (Бяр., 253). *Парайн.* выдрожоный.

**Выдра** *наз.* **1.** *Шкура выдры.* взято у сына моего... выдер шесть, куниц две, бобръ одинъ, и иншого товару крамного не мало (АВК, XXXVI, 118, 1582); онъ же мѣлъ выдеръ 13 за копъ 6, грошей 30 (АСД, III, 298, 1583).

**2.** *Шуба з выдры.* взяли... колпакъ собольцовый за золотыхъ... сорокъ, выдру лисомъ подшытую (АВК, XX, 314, 1635).

**Выдраный** *дзеепрым.* **1.** *Вырваны.* якожъ возный самъ, ставши до книгъ, созналъ, ижъ дей виделъ есми у клети задней у Матыса защепки и пробой выдраны и ушакъ розщепанъ, двѐры выставлены (АВК, XXII, 262, 1565—1566). ◇ Выдраные пчолы — *аграблены вулей.* четьверы пчолы выдрано (КВЗС, 14, 1537); видѣлъ есми пчолы одны выдраны (АСД, I, 181, 1590); пять ульевъ пчолъ, на корень тое прошлое ночы свежо выдраные (АВК, XVIII, 240, 1615); другие пчолы в Гатовщыне з лежня выдрано (ИЮМ, XXV, 241, 1670).

**2.** *Выкарчаваны.* въ нашомъ власномъ бору Завидчицкомъ проробили, якожъ и проробокъ новый еще не выдраный оказывали (АЮЗР, II, 82, 1633).

**Выдранье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* выдрати *ў 1 знач.* ◇ Выдранье пчолъ — *аграбленне вулля.* люди пана воеводины на боехъ и на грабежохъ своихъ и на выдраньи бчолъ присягнути хотели (КСД, 193, 1514); ѡнъ ты [и] пчолы выдрати казалъ с которого выдраньꙗ вжо жывы не бȣдȣть (КВЗС, 14, 1539); в селе Хранове была купа о потайное вылупене и выдране з улья пъчолъ (АВК, XVIII, 269, 1624).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* выдрати *ў 2 знач.* тотъ бояринъ... которое зоранье и выдранье тое сеножати возному поветовому Станиславу Буйне оповедалъ (АВК, XXII, 267, 1565—1566).

**Выдрати, видрати** *дзеясл.* **1.** *З сілай выцягнуць, вырваць што-н.* такъ шедши до него з палицею моцъю выдралъ копе з рȣки египтꙗнина (Біблія, 397); ѡблудныѕ тот свѣтъ которыѕ всѣ брони з рȣкъ хрестиꙗнских стараетсꙗ выдрати (Зб. 259, 196); еще зъ вежы выдрали кграту, важыло полпуда и фунтъ одынъ (ИЮМ, VI, 159, 1689). ◇ Выдрати пчолы — *забраць мёд з вулля, знішчыўшы пчол.* въ той жо земли двадцетеры бчолы выдрали, ни чимъ не ружаныхъ (КСД, 193, 1514); онъ тотъ медъ выдралъ зъ дерева бортного нашого



(АВК, XVII, 219, 1540); одно яко есть обычай у осень выдрати старыи пщолы, на корень не кажечи дерева; а што молодыхъ сядетъ пщолъ, тые маетъ попъ на себе держати (АВК, XI, 32, 1556); двои пчолъ у соснах бортных подданого его млсти пн҃а моего... со пчолами выдрал и мед побрал, и одну сосну бортную спалил (АВК, XXXVI, 284, 1582); пчолы на корень выдравши, до домовъ своихъ до села Загрыдкова волости Деревенское отвезли и отпровадили (АВК, XVIII, 199, 1606). *Парайн.* выдарти, выдерти.

**2.** *Забраць, захапіць, награбіць.* што сꙗ колвекъ мужъской плоти ȣродит ȣ израилтꙗн, то выдравши з рȣкъ ихъ вкидаѕте до реки (Біблія, 106); крол кготскиѕ... мѣл старостȣ ариꙗнина... тот леѡнови мѣста тог еп҃кпȣ правовѣрномȣ выдрал церковное село, а еп҃кпъ просил его абы емȣ вернул (Бельск., 331б); Тисечи за ним людȣ ходило, а ѡн нѣкоторым видирал на дорозе и давал што видрал тым што не мѣли (Там жа, 333б); Ꙗрослав новгород з моцы его выдралъ (Стрыйк., 456б); всѧ их дȣша на том, где бы што оу кого розмаитыми способами взѧвши, ѡтнѧвши, выдравши, и кȣпивши томȣ своемȣ бридкомȣ бог҃ȣ на офѣрȣ принесли (Каліст, I, 35б); кожȣ на сведецство лупѣства в муках носит иж еи ȣбогоѕ вдовѣ гвалтом выдрал (Зб. 107, 104); коли помилȣеш тых которых еси зȣбожыл тогды иншым ȣбогим не с того штос выдрал добре чыни (Зб. 752, 592б); направившы на них нѣꙗкого валериѧ листы имъ выдрат и вси пн҃зи которие на справȣ мѣли (Зб. 82, 153). *Парайн.* выдерти.

**3.** *Атрымаць з цяжкасцю, вымантачыць.* тѣж которыи сȣдꙗ... хотꙗчи кого оутегать не имаючи на нихъ жалобы ни ѡдное ани вины разъмовитое позовы на нег чинѧт а хотѧчи на них нешто выдрать прото мы оуставлѧемъ иж хто коли позоветь без повода имееть винȣ заплатить (Вісл., 15б—16).

**4.** *Адабраць, пазбавіць.* диꙗвол ꙗко заздростливыѕ такои ласки иѡвовѣ ȣ бога хотꙗчи ему еи выдрат, почал ѡбвинꙗт иѡва (Біблія, 78); выбавили его мещане которим царъ хотѣл тую ихъ волност выдрат (Рым., 80).

**5.** *Адшукаць, знайсці, узяць.* Не вѣмъ же, откуль новый теологъ а старый баламутъ Стефанко Зизанія тое выдралъ и написалъ (Гарм., 180).

**Выдратися** *деясл., зв. ад* выдрати *ў 1 знач.* которого коли многими ланцȣхи ѡкованог ледве до ст҃ого Іллариѡна привели... выдралсꙗ ѡныѕ бѣсноватыѕ и кинулсꙗ на Іллариѡна з тылȣ (Зб. 752, 450б).

**Выдрожоный** *дзеепрым. Тое, што і* выдороженый. ѡ светом петре то пишут: иж так много слез горачых выливал иле крот кȣра поючого слȣхалъ ижъ долки подъ ѡчыма длꙗ ȣставичного выливаньꙗ слезъ мелъ выдрожоны (Зб. 255, 254б); Кѵлостатма: речъ ꙗкаа колвекъ выдрожонаа (Бяр., 287).

**Выдрукованый** *дзеепрым. ад* выдруковати. абы статутъ права посполитого земского былъ поправленъ и выдрукованъ, а то бы въ немъ меновитѣ было описано (АЗР, III, 32б, 1551); еѵгли*ꙗ* писа*н*ꙗ с҃того ма*т*феѧ, и с҃го марка, и початокъ лоуки. есть в тои ȣбогои моеи дроука*р*ни ѿ мене имъ выдрȣковано (Цяп. Прадм., 268); въ книжцѣ собраные... и выдрукованые передъ нами покладали (АЗР, IV, 143, 1596).

**Выдрукованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выдруковати. книжку до друкарни Левона Мямонича... на выдрукованье змышленыхъ помовискъ на насъ въ невинности нашой (АЮЗР, II, 56, 1609).

**Выдруковати** *дзеясл. Надрукаваць, выдаць.* его королевская милость того выслухавши, будетъ рачилъ росказати оный статутъ выдруковати и битымъ писмомъ выбити (АЗР, III, 32, 1551); выдрукававши титлы королевского величества и титлы царского величества съ грамотъ докончальныхъ, розослали есьмо ихъ до городовъ украинныхъ (АЗР, V, 33, 1637).

**Выдти** *гл.* выйти

**Выдумати** *дзеясл. Выдумаць.* се естъ первыи знакъ, иже сѧ сіа рѣчь Петра Ап҃ла не о том^s^ съшествіи розумѣеть, которое мнихи собою выдумали, ꙗкобы Х҃с д҃шею на д҃ши с҃тыхъ въ адъ исходилъ (Будны, 139б).

**Выдутый** *дзеепрым. Надзьмуты.* ѡго*н* ȣчыни*л* собѣ ꙗко скле*п* зо всихъ сторо*н* ѡколо тѣла выдȣты^s^ ꙗко парȣсъ ѿ вѣтру сталъ (Зб. 752, 559б).

**Выдхненье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выдхнути. на ка*л*кȣ рекȣ пришли, где сꙗ *и*ншие татарове з наметами своими пол*о*жили, та*м* зара*з* не доп*ȣ*стили и*м* вы*д*хне*н*ꙗ (Стрыйк., 488б); во^s^ско дл*ꙗ* вы*д*хнен*ꙗ* ѡнои до*л*гои працы до домо*в* росп*ȣ*сти*л* (Там жа, 536б).

**Выдхнути** *дзеясл. Перадыхнуць, адпачыць, перавесці дух.* много се е҃пкпо*в* ари*ꙗ*нских ѿменило, и до нике^s^скои вѣры с҃тои пристали... и та*к* собѣ трох*ȣ* правовѣ*р*нии вы*д*хн*ȣ*ли, а це*р*ко*в* с҃т*ꙗ* ѿпачин*ȣ*ла [так!] (Бельск., 283б—284); пото*м* Ски*р*мо*н*т вы*д*хн*ȣ*вши на побоищи по ѡно*м* звит*ꙗ*зствѣ а маючи во^s^ска готовыи зара*з* т*ꙗ*гну*л* до сиве*р*скои зе*м*лѣ (Стрыйк., 522); Ивон*ꙗ* ты*м* часо*м* з во^s^ско*м* свои*м* вы*д*хн*ȣ*лъ (Хр. польск., 19).

**Выдымусъ** *гл.* видымусъ

**Выдялокъ** *наз. Тое, што і* выделокъ. выехал есми до земян гдрских повету Троцког... до имeней их, называемых Заборских, лежачих у повете Троцком для выдялку в остатку в ымeню их Заборском (АВК, XXX, 385, 1609).

**Выедати, выядати** *дзеясл. Выядаць, з'ядаць.* ꙗко звыклъ волъ трав*ȣ* ажъ до корен*ꙗ* вы*ꙗ*дать (Біблія, 201); Мыши выедали вн*ȣ*трности (Бельск., 92б); *ȣ*жы ѡные выедали мнѣ ѡчы, и все тѣло грѣзли (Зб. 752, 563); Такъ выгладитъ тотъ людъ всихъ которыи на границахъ наши*х* мешкаютъ, ꙗкѡ звыклъ вол^s^ трав*ȣ* ажь до корен*ѧ* выедать (Хран., 142).

**Выедаючий** *дзеепрым. ад* выедати. и переднее седенье на вечер*ѧ*хъ. Выедаючіхъ домы вдовъ, а [еще] домніманьемъ долги*х* молитвъ, тые приимуть лишшое осуженье (Цяп., 61).

**Выеднати** *дзеясл. Выпрасіць, выклапаціць, выстарацца, дабіцца, дамагчыся.* хот*ѧ*чи нас поневолне до тоеежъ едности привести, выедналъ оуниверсалы з канцел*ѧ*ріи к*р* его м*л* (Апакр., 211).

**Выеждати** *гл.* выезджати

**Выежджати** *гл.* выезджати

**Выежджаючий** *дзеепрым. ад* выезджати *ў* 1 і 3 *знач.* умоцованый пана Крыштофа Ейсимонта... поведилъ то: ижъ непотребне панове Куликове сторону мою пана Крыштофа Ейсимонта... турбуете... побившы выежджаючого съ корчмы пана Крыштофа (АВК, I, 313—314, 1646); За розказанемъ пана райцы скарбоваго въ тую дорогу до Вилна выежджаючему рыбъ купили отъ Васка Скарбогатаго щупаковъ пять (ИЮМ, IV, 81, 1686).

**Выежджий** *гл.* выезджий

**Выеждзати** *гл.* выезджати

**Выеждзий** *гл.* выезджий

**Выеждивати** *дзеясл. Выязджаць.* Такожъ призволяемъ, абы княжата, рытери, шляхтичи, бояръ, доброволно имѣли бы моць выѣхати зъ нашихъ земль... а куды выѣждиваючи изъ своихъ имѣней, штобы службы наши не были замешканы (АЗР, I, 75, 1457).

**Выеждчанье** *гл.* выезджанье

**Выеждчати** *гл.* выезджати

**Выеждчий** *гл.* выезджий

**Выеждый** *гл.* выезджий

**Выеждяти** *гл.* выезджати

**Выежжати** *гл.* выезджати

**Выежчанье** *гл.* выезджанье

**Выежчати** *гл.* выезджати

**Выежчий** I *гл.* выезджий

**Выежчий** II ◊ В ы е ж ч и й л и с т ъ *гл.* листъ

**Выездати** *гл.* выезджати

**Выезджанье, выеждчанье, выежчанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выезджати. што ся дотычетъ на землю выѣзджанья для границъ, тамъ маетъ выѣзджати староста съ судьею и съ подсудкомъ (АЗР, II, 80, 1511); што ся дотычеть на землю выежчаньꙗ (КСД, 665, 1511); бави*л*се тэ*ж* вые*ж*дчане*м* на поле з мысливстве*м* (Еўл., 34).

**Выезджати, выеждати, выежджати, выеждзати, выеждчати, выеждяти, выежжати, выежчати, выездати, выездчати, выезждчати** *дзеясл.* **1.** *Выязджаць, адпраўляцца куды-н., за межы чаго-н.* кды деи вже намъ выеждяючи з места за

Немном, уже на поли... татарове... догонивши дей насъ самыхъ и слугъ нашихъ побили и поранили (АВК, XXI, 111, 1556); кды дей панъ Быстрыцкий до двора своего приеждалъ... поткалъ дей служебниковъ пановъ Сопегъжиныхъ, которые з двора пана Быстрыцкого выеждають у зброяхъ (Там жа, 198, 1556—1557); Семен Богданович... оповедал на Мартина Гавриловича, мещанина Могилевского, ижъ ему будучи виненъ... з места по потребе своей не заплативши выеждчает (ИЮМ, XXX, 10, 1577); мы есмо не велели бить, але велели тые возы с тою [мукою] побрать, бо не маемо чымъ се страховать, намъ ничого не зоставено, а вы з места вывозите и сами з места выездаете (АВК, XX, 196—197, 1602); кгды выежчал з броны сторож его задержал (Бельск., 139б); Потом алеѯандер всѣдши на него почал выежчать з краты (Алекс., 5); [Алеѯандер] Выежчаючи зъ африки приказалъ рицерем своимъ абы вступили з ним в корабли (Там жа, 75); назавтрѣе выежджаючи, вынѧвши два денари далъ господарови (Каліст, II, 147); выѣждзаючи мнѣ з$^{s}$ села того великаꙗ тлуща люде$^{s}$ вышла такъ стражи ꙗк и посполитого чл҃ка (Дыяр., 151б); старши$^{s}$ виленски$^{s}$ выѣждзаючи казал челꙗди свое$^{s}$ ѡдати мене до ѡтца Шицика (Там жа, 162); тиридат... выеждзаючы в ловы дивным а чудовным каранемъ бж҃им... ѡт розȣму ѡтишол (Зб. 752, 21б); за розказанемъ пана войта тому жъ дворанину, гды выеждзалъ, дали ему злотковыхъ десять (ИЮМ, VIII, 134, 1691).

**2.** *Прыбываць куды-н. для выканання пэўных службовых функцый.* тые судьи тамъ выездчали и того межи ними смотрели, и тотъ судъ свой тобе отказали (КЗ, 158, 1496); выѣжжали есмо тамъ у въ островъ Глуховъ (РПП, 278, 1507); мы тамъ на тую землю выеждяли; и ѡнъ самъ не сталъ и судей своихъ не вывелъ (КСД, 477, 1517); ижъ бы намѣстники ихъ лежывали у Добромъ-деревѣ не выѣзждчаючы (АЮЗР, I, 64, 1524); небожчикъ митрополитъ на тотъ рокъ судей своихъ выводилъ и самъ выѣжчалъ (АСД, III, 8, 1532); по томъ нынѣшнемъ объѣздѣ, яко посланьцы его милости на границы великого князьства Литовского выѣзджали, тымъ большіе кривды той братьи вашой пограничной... дѣються (АЗР, III, 10, 1547); служебнику панскому, который до нихъ выѣждчаетъ, отъ топора по два гроши зъ стародавно даютъ (АВК, XIV, 11, 1555); нехай дей тамъ на той кгрунътъ панъ Гурын болшъ не высылаеть, ани самъ не выежчаеть, бо ему тамъ дамъ киемъ в брух (АВК, XXXVI, 252, 1582); где на року зложономъ панъ Балтромей Гаврыловичъ... на тые звышъ помененые сеножати самъ особою своею выежджалъ и приетелей своихъ двухъ высадилъ (АВК, XXVI, 481, 1586); на часъ назначоный шкрутынии судья мой кгродский панъ Криштофъ Рекуть выеждчалъ (АВК, XVIII, 188, 1602); таѧ сȣмма посаговаѧ, не можетъ быти даннаѧ кревнымъ... абы... не пропала, и жебы



з$^{s}$ монастырѧ потомъ, по провизыю ѡт тоеѧ сȣммы, инокини не выеждзала, до кревныхъ (Зб. вып., 74).

**3.** *Выступаць у паход, рабіць набег, вылазку.* коли козаки запорозкие назадъ на низ ѡтсолѧ выеждчали, тепер же великȣю силнȣю шкодȣ по селахъ по мѣстах чинили (Барк., 167); мешкал дв҃дъ в земли филистынской чотыри мсцы, и выеждчал дв҃дъ и мужове его и брали полоны з гесъры (Біблія, 351); нѣкотории з них вступȣючи в лоди против ему выежчали на береги морскии (Алекс., 13); Срѧщаю: ...выеждчаю противъ комȣ, застȣпаю комȣ дорогȣ, захожȣ комȣ в$^{s}$ дорозѣ (Бяр., 155). ◇ В ы е з д ж а т и н а в о й н у — *пачынаць ваенныя дзеянні супраць каго-н.* бысть по единомъ лѣте того часу внегда имають обычаи цареве выеждѧти на воину (Скар. ДЦ, 84); тая вина положона естъ, которіе на войну з дому не выеждчали и въ шику не были (КПД, 465, 1568); сталосѧ по рокȣ, тогѡ часȣ, которогѡ звыкли цр҃еве выѣждѧть на войнȣ (Хран., 255б); в ы е з д ж а т и н а г е р ц ъ — *выступаць супраць ворага, праціўніка.* [дш҃а] Без$^{s}$ брони абовѣмъ дх҃а не вымыкаетъсѧ на герцъ: а оубрана в$^{s}$ зброю Гсдню, оучȣвши и послышавши о войнах срогих, з радостью и выкрикан$^{s}$емъ выѣзджаетъ (Мак., 216); Зброею дх҃овною оузброеный безпечне на герцъ выежджаетъ (Там жа, 394).

**4.** *Пакідаць сталае ці часовае месца жыхарства, высяляцца.* одинъ зъ отцовъ нашихъ... не хотѣлъ подписоватисе... его м. на него острыми словы повсталъ и пречъ зъ очу своихъ уступити, а наконецъ и зъ монастыра выѣжджати казалъ (АСД, IX, 117, 1627).

**Выезджий, выежджий, выеждзий, выеждчий, выеждый, выежчый, выездный** I, **выездчий** *наз. Паверaны, упаўнаважаны, даверaны, пасыльны.* коли нашъ выѣздчій пріѣдетъ до нихъ, для ихъ дани, або тивуньщины нашое... они нехай сами собою его поднимають кормомъ и подводами (АЗР, I, 171, 1497); такъ мы, о томъ всемъ одъ выездчихъ нашыхъ маючы достаточную на письме, ведомость, донесли есмо то до его королевской милости (АВК, XXIV, 11, 1505); Тивунщины съ тое части на выѣждчого даютъ съ тогожъ села Гнѣздиловского меду пудъ и полъ осма гроша литовскихъ (АВК, XIV, 11, 1555); на тот же час был выежды$^{s}$ ѡт его крол млсти и ѡт пн҃овъ и радъ, напоминал грозил козакомъ ижъбы ѡни никоторого кгвалтȣ в месте по селахъ не чинили (Барк., 166б); перéдъ выѣжджыми митрополита уніованого тотъ свещенникъ становити се не маеть (АСД, I, 267, 1628); Самому пану Чижу, выеждзему, презъ пана войта дали золотковыхъ тридцать (ИЮМ, I, 228, 1682); выездному одъ Его млсти пана подканцлерого пану Чижу: Хлеба ситного, булокъ две (Там жа); дворянину отъ его млсти... Лиходеескому, выезджему для шелегового: сена возъ, золот. одинъ (ИЮМ, II, 98, 1684);

гды выежчые приехали до Могилева о Казановъщину, теды... купили рыбъ свежихъ (ИЮМ, IV, 86, 1686).

**Выездити** *дзеясл. Ездзіць, выязджаць час ад часу куды-н.* они дей тамъ выездили, и того межы ними смотрели (КЗ, 521, 1494); вуезъдилъ ест Семеи ізъ ерусалима до е҄а града (Скар. ТЦ, 126б—127); слуга мой поведилъ, ижъ кгды на рокъ зложоный до тыхъ сеножатей выездилъ... тотъ дей Дехъ ани сыны его на тую сеножать не вышли (АВК, XVII, 345, 1541); Мы слуги короля его милости... за комисеею господарыни королевой ее милости... выездили есмо на землю (АВК, XXI, 33, 1555).

**Выездное** *наз. Развітальны пачастунак.* пана Красовского райцу до Кричева посылали... на выездномъ кгарцы два заплатили асмаковъ двадцать чотыри (ИЮМ, I, 266, 1682); Якъ щенсливе пановъ пословъ препроважали въ дорогу... на выездномъ налили барилку меду, у Казановичовомъ дому (ИЮМ, VIII, 96, 1691).

**Выездный** I *гл.* выезджий

**Выездный** II *прым. Звязаны з выездам.* жаловали намъ земяне Бельскии на судью Бельского Рачка Пучицкого... бралъ де$^{s}$ на насъ безвинно грошы, копы выездъныи, и иныи речы, не водле обычаю права (КСД, 886, 1516); Мы... врозȣмели есмо тому, ижь судьꙗ Бельски$^{s}$ Рачко тыи грошы, копы выездные, и иные доходы бралъ на нихъ, не водле права и статутȣ (Там жа, 886—887).

**Выездчати** *гл.* выезджати

**Выездчий** *гл.* выезджий

**Выезждчати** *гл.* выезджати

**Выездъ** *наз.* **1.** *Ад'езд, адбыццё.* А то правити передъ выѣздомъ за день (АЗР, I, 142, 1494); то ȣже битва была по выезде моемъ с подвислицы (Барк., 158); мы господаръ... выслалисьмо передъ выѣздомъ нашимъ на войну противъ непрiятелю нашому... на розмѣренiе ревизоромъ секретаря нашого Станислава Локнецкаго (АВК, XIII, 40, 1580); которые таляры узяли... на еднане, жебы далей не контентовать до выезду (ИЮМ, VII, 4, 1690). ◇ На выезде — *перад ад'ездам.* ꙗ... былем сȣжоны$^{s}$ декретованы$^{s}$ з презвитерства и iгуменства деградованы$^{s}$ и юж на выѣзди з$^{s}$ варшавы не маючи где мꙗ подѣти, былем пресыланы$^{s}$ ѡд господы до господы (Дыяр., 161б); Постерегаемъ и тогѡ же гдѣ бы которыи з$^{s}$ насъ перед тыми оурочистостѧми ѡтежджалъ... теды кождый таковыи на выездѣ своем$^{s}$ в$^{s}$ дорогȣ справȣ тȣю бозкȣю ѡтправити повинен будет (Ст. бр., 10); Его млсти ойцу Наместнику Епископии Белоруской, на выезде зъ Могилева до Вилна, вина кгарнецъ, дано золот. чотыри (ИЮМ, I, 238, 1682). *Парайн.* выяздъ.

**2.** *Паездка.* первей сего до нихъ о томъ же выездилъ маршалокъ... и о томъ своемъ выезде передъ вашею милост [ь] ю все росказывали (КЗ, 603, 1495); Богданова мовила передъ нами: мужȣ моему далъ ѡц҃ь ихъ вечне тую жонку за выездъ, што ѡнъ ездилъ на копу зь его рȣки (КСД, 453, 1517); кожды$^{s}$ рокъ выездȣ подкоморэго на кгрунтъ маеть быти завжды завиты$^{s}$ (Ст. 1566, 67—67б); на насъ тая справа преложона была, которого выѣзду нашого комиссарского далисьмы сторонамъ тотъ нашъ листъ (АВК, VI, 208, 1600); купили возокъ другiй на счастливый выездъ пановъ пословъ до Варшавы (ИЮМ, I, 94, 1680).

**3.** *Прыезд.* Во$^{s}$селко теж велики$^{s}$ кнꙗз литовски$^{s}$ приехал на час зложоны$^{s}$, до вровска монастыра... там же лежал долги$^{s}$ час ѡбозом положившисꙗ з паны кнж҃ати и боꙗрами литовскими своими чекаючи выездȣ кнж҃ат рȣских на компромис и ȣгодȣ ѡ розност границ (Стрыйк., 527б); кгдымъ пыталъ пошто се тут на цвинътаръ зргомадили поведил иж якосмы перъвей... бороним... кгдыж намъ жадного обвещаня не дано и о выезде твоимъ не ведали есмо (СДГВ, II, 46, 1609).

**4.** *Месца, праз якое выязджаюць адкуль-н.* Въ Новомъ Месте данина на выезде, 12 день (КЗ, 297, 1488); панове... запозвалисiа тут до суду... о плiацу пiать прутовъ и о будованье на немъ стоiачое на выезде за Стругою (ИЮМ, XXXII, 201, 1578).

**Выемка** *гл.* выимка

**Выемокъ** *гл.* выимокъ

**Выенце** *наз. Выманне, выцягванне; атрыманне копіі дакумента, выпіскі.* За выенце екстракту на прошлыхъ шафаровъ асмак. дванадцать (ИЮМ, I, 195, 1681); Напродъ, его милости отцу Волчаскому, наместнику епископии белоруской, на выенце справъ, золотыхъ пятнадцать (ИЮМ, IV, 198, 1686).

**Выести** *дзеясл. Выесці, з'есці.* около дей той раны, где рогатиною проколото, псы тело внутре все выели (АВК, XXI, 86, 1555); правда дей есть, што тую гречтыну статки нашы выели и до испашы дей стоимо и заплатимо, што на насъ прыйдетъ (АВК, XVIII, 103, 1592); Саранча великаꙗ в рȣские стороны невѣдомо ѡтколъ пришедши всѣ збожъꙗ и ѡвоцы выела и выгризла (Стрыйк., 465); пришла саранча, и хрȣщи котории личбы не было и выела всю травȣ в земли ихъ, и пожерла ввесь ѡвоцъ земли ихъ (Пс. XVII, 112).

**Выеханье, выяханье** *наз.* **1.** *Выезд.* мы... для скорого выѣханья нашого до коруны Польское, на тотъ часъ на конецъ тому справедливости не вчинили (АСД, I, 10, 1522); кнꙗз... аж до выеханьꙗ господарского в ловы права собе доводилъ (КВЗС, 163, 1540); артыкȣл гı҃ ѡ волности выꙗхане зъ земли кроме земль неприꙗтелскихъ (Ст. 1566, 31); ѡ вольности выеханьѧ с панствъ нашихъ до инъших паньствъ хрестиꙗнских кромъ земль неприꙗтелских (Ст. 1588, 81).

**2.** *Ад'езд, адбыццё.* ꙗ, бȣдȣчи безпечонъ ихъ выеханьꙗ съ кляшторя, поехалъ есми на поле господарьское (КСД, 125,

1514); Масюта по выеханью ихъ и зъ сыномъ своимъ пилъ въ мене не мало не до куровъ (АВК, XVII, 239, 1540); тая Гапица по выеханью его з дому до Вильни, з ыменья его Свислочы отъ насъ втекла прочъ (АВК, XXI, 159, 1556—1557); в тот часъ по выеханю кн҃зѧ великого кгирмонта з земли латыгалское пришли немцы (Патр. П, 87). ◇ При выеханю — *перад самым ад'ездам.* При щасливомъ выеханю пана Овтушковича до Варшавы, вина кгарнецъ у п. Оноски, золот. чотыри (ИЮМ, I, 142, 1681); подъ часъ выеханья — *у сувязі з ад'ездам.* Подъ часъ выеханья пана Молчана лавн. Могил. до Кгродна на комисию отобрали отъ пана Іосифа Позняка кабачныхъ грошей золотыхъ тысяча шесть сотъ двадцать (ИЮМ, I, 127, 1681).

**3.** *Паездка.* што ся дотычеть на выеханье деръжавецъ и тивуновъ, тые речи такъ уставуемъ (КПД, 71, 1529); на который жо часъ абы такъже за выеханьемъ сполныхъ комисарей... оная речъ ся сконъчила (Там жа, 62, 1540); За выѣханемъ вельможного пана его м. пана Теодора Скумина ...сталося есть певное, вывѣдане и поровнане (АСД, IX, 433, 1591); прото за вложеньемъ се въ то ихъ милости пановъ пріятель зобопольныхъ нижей мянованыхъ и за выяханьемъ ихъ на тые грунты наши, о которые споръ межи нами былъ... теды мы зъ нимъ... погодили и границы поновили есьмо (АВК, XI, 93, 1620). ◆ Выеханье на герцъ — *выезд на паядынак.* О поставленіі от кн҃зя Дмитрия Михайла вмѣсто себе, о листѣ от свт҃го Сергия, о охотѣ князевой на войну и о выеханю на герць з татарином Пересвѣта чернца (Мам., 183).

**Выехати, выяхати** *дзеясл.* **1.** *Выехаць.* Таможъ призволяемъ, абы княжата, рытери, шляхтичи, бояре, доброволно имѣли бы моць выѣхати зъ нашихъ земль князьства великого (АЗР, I, 75, 1457); побегоша чорныи люди ѡт пана Андреꙗ выехаль з города и с жоною и боꙗре Смоленьски с нимь (Увар., 108); Князи филистымъскии глаголаша къ Ахисȣ ѡ давыде, а не хотеху его имети ȣ воище своемъ, и прото Ахисъ повелелꙿ Дв҃дȣ выехати з войска (Скар. ПЦ, 60б); ѡни выехали за Бовомъ з города (Бава, 141); крол не хтꙗл был выехать аж дворнꙗ и на замку мреть почали (Еўл., 11); вже были з мѣста выехали и недалеко ѡтехали (Біблія, 97); прозбами ѡт подданых змꙗкчоныꙿ выехал з манастыра пинског до новгородка (Стрыйк., 527); кгды выяхалъ за Браму Острую, за муръ... Иванъ Прилуцкий... порвавшысе с колясы до него... в руку правую вышей локтя усекъ и шкодливе ранилъ (АВК, XX, 260, 1619); ꙗко бы то господар былъ глȣпыꙿ которыꙿ... вѣдаючи о приезде пана своего з домȣ бы выехалъ (Зб. 259, 557); становъничымъ поселскимъ, абы скоро выехали зъ Могилева безъ кривды, дали золотковыхъ десетъ (ИЮМ, I, 115, 1680).

**2.** *Прыбыць куды-н. для выканання пэўных службовых функцый.* [Богушъ] до земли и панства нашого, великого князства Литовского, значне и оказа [ле] выѣхалъ (АЗР, I, 49, 1438); судьямъ же и ѣздокомъ тамъ выѣхати на реченое мѣстьцо (Там жа, 83, 1468); выехалъ к немоу кн҃зь Глебъ Стославичь не во мнозѣ ѡн же чт҃ивъ и дарив его любовию ѡтпоустиль его рекше к нимь дабы естѣ выехали вси кн҃зи братеники ко мнѣ с любовию по ѡпасоу (Увар., 96); кгды ѡни мели на тотъ ѡстровъ нашъ выехати тогъды вы чȣючысꙗ в томъ быти виньни насъ есте ѡ томъ просили (КВЗС, 57б, 1533); што ся дотычеть менованья комисарей, которыи... на границы Ганязскіи и Раигородскіи зъ Городномъ и зъ Бѣльскомъ выѣхати мѣли (АСД, I, 14, 1536); который выехавши до насъ и въсѣхъ насъ братью ровно поделилъ на семъ частей (АВК, XXII, 149, 1565); хоружыꙿ... маеть выехати сам в поле и наказати до себе всим поветникомъ своим... зъехатисе (Ст. 1566, 21); ѡнъ вбралъ сѧ и всѣлъ на конь и выехал к ним на поле (Трыст., 125); Выехал теды иѡсифъ на землю египетскую (Біблія, 92); болеслав з великостю панов полских, выехал до немецког мѣста мамберкȣ на розмовȣ (Стрыйк., 474б); алеѯандеръ, послал до них мовечи: ижъ до нихъ з покоем и весело приеде. А потом выехал до них (Алекс., 29); кгды зновȣ вꙿ ловы выѣхал, двох інокѡвъ вꙿ пȣстыни идȣчихъ ѡбачилъ (Варл., 27б); назавътрее тиран ѡныꙿ судꙗ а мордеръца ст҃оꙿ выехал ȣ ловы (Зб. 82, 431б); я Геронимъ Александровичъ Ходкевичъ... просилемъ... пана Миколая Юрьевича Радивила... абы его милость рачилъ въ тые рубежи выѣхать (АВК, XIII, 342, 1685).

**3.** *Выступіць у паход, зрабіць набег, вылазку.* егда солнце бȣдеть ȣсходити ȣдариши на градъ, и егда онъ выедеть с людми своими противу тобѣ, то ȣчиниши ему еже восхощеши (Скар. КС, 23); Против которым Свѣтополкъ кн҃жа выехавши дал им битвȣ (Стрыйк., 465); выехал против нему иѡанафан з чотырмадесꙗт тисꙗчъ мужовъ, перебраных ку боеви, и пришол до вефсан (Кн. Мак., 62—62б). ◇ Выехати на валку (войну, битву) — *выступіць на бой з ворагам.* Тѧлѧмониус аꙗксъ... ȣ великои моци валечнои на валку выехали (Троя, 24); который бы шляхтичъ... на войну [ку] теперешней потребе въ тыхъ двухъ годехъ не выехалъ безъ слушныхъ причинъ, въ статуте описаныхъ (КПД, 412, 1567); выехал на битву кн҃зь великии Кестутеи зъсыномъ своимъ кн҃зем великимъ Витовтом против великого кн҃зѧ ꙗкгеила (Рач., 319); взывали до гсда: которыꙿ имъ взбудил гафониила... и выехалъ на войнȣ, и далъ гсдъ в рȣцѣ его хусарсафема царꙗ сириꙿского (Біблія, 120); В тоꙿ часъ филипъ царъ македонскиꙿ на воꙿнȣ выехалъ (Алекс., 1б); выехати на герцъ (поединокъ) — *прыняць удзел у ваенным паядынку.* ꙗкъ бы хто зꙿ мȣжныхъ рицерѡвъ оубравшисѧ весъ вꙿ зброю кролевскую и на герцъ выехавши мȣжне зꙿ неприѧтелми потыкалъсѧ и поражалъ ихъ (Мак., 193); ꙗкобы тежъ зꙿ обозȣ перского

и зˢ обозȣ римского, два юнаки в҆ силахъ ѡба собѣ ровныи на поединокъ выехали (Там жа, 268); **выехати з валки** — *пакінуць поле бою.* потом заправдȣ гекторъ выехал з валки (Троя, 58); гекторъ заправду чюючисѧ быть зранены з валки выехал (Там жа, 61).

**4.** *Пакінуць сталае ці часовае месца жыхарства, перасяліцца.* затымъ тотъ Щасный... самъ з двора... зо всимъ своимъ прочъ выехал (АВК, XXXVI, 20, 1582); пани Малъкгорета Миколаевна Котловна... с того дворъца Каланъдинъского проч выехала сама добровольне (Там жа, 264); выѣхали зъ дому купецкого въ домъ Кгабрыеля жыда (ИЮМ, I, 29, 1679).

**Выжабрати** *дзеясл. Выжабраваць.* ѻронцищок великиˢ и милосник ȣбозства никгды на ѡбѣд не шол аж што выжабрал хлѣба на ȣлици (Зб. 261, 149).

**Выжаленье** *наз. Скруха, смутак, жаль, шкадаванне.* Само ажъ зобополное знищенье, оупрацованьесѧ, высиленье, выжалене, зȣбоженье, звыкло такіе вѡйны але не в час гамовати, а згодȣ пожаданȣю нерыхло приворочати (Апакр., 217); Марилa слышечы поздоровление, з таким своим выжаленем поведает лȣка светыˢ иж се затрывожила, а потом пытала, ꙗко бы то стат се мело (Зб. 255, 321б).

**Выжалити** *дзеясл. Джалячы, выгнаць.* послалъ есми предъ лицемˢ вашимˢ шершни они же выжалили е изˢ градовъ ихъ, двухъ царей амореискихъ, не оружиемъ ани лукомъ вашимъ изгнани быша (Скар. IН, 46).

**Выжаръ** *наз. Выгар, выжарына.* оказываюць, якобы мѣла быти рѣка Оръ, то есть выжары, а иншое хлопи Ратенскіе копали ровы для ловенья въюновъ (АСД, I, 65, 1546).

**Выжати** I *дзеясл. Выціснуць.* в ночи въставъ Гедеонъ и руно выжалъ и сосȣдъ росы наполнилъ (Скар. КС, 16); взѧти внѣшнѧꙗ морковное и покиноути что в нѣм изварити его и выжати еѧ (Арыст., 213).

**Выжати** II *дзеясл. Выжаць, зжаць.* на которой той сеножати... траву выжали и потоптали (АВК, XXXVI, 190, 1582).

**Выжатый** *дзеепрым. ад* выжати II. я возный огледалъ и видѣлъ на шестнадцать стаи выжато и жито побрано (АВК, VI, 73, 1589).

**Выжебраный** *дзеепрым. ад* выжабрати. Жадного патрыѧрхи не маеть которыи бы се на еи столицȣ выжебраными и выфальшоваными часомъ пенезми не вкȣпилъ (Бер. саб., 55б); жадного патріархи ни маетъ, который бы сѧ на ей столицоу выжебраными и выфалшоваными иногды пѣнѧзьми не вкоупилъ (Апакр., 166).

**Выжей, вижей** *прысл.* **1.** *Тое, што і* вышей *у* 1 *знач.* зъ Мильковичъ и Бѣшенковичъ положили есьмо грань Сопниковскую зъ Двины рѣки напротивъ Овдеевичъ, нижей светого ручья, выжей езища старого Мильковского (АВК, XIII, 11, 1508).

**2.** *Тое, што і* вышей *у* 2 *знач.* У той манифестаціи подписи вижей тыми словы (АВК, I, 100, 1666).

**Выжеймененый, вижеймененый** *прым. Тое, што і* вышеймененый. тые люди его выжеймененые ув облаву... не маютъ ходити (АВК, XXIV, 29, 1523); при битности державцы Ботоцкого и подданыхъ селъ вижеймененихъ... копце и границе инше старие поправиломъ (Там жа, 198, 1558); ему придаю и позволяю брати съ кождое волоки съ тыхъ выжеймененыхъ съ мѣста Вышницъ... попу по пулъкопы жита выберати (АВК, III, 22, 1591).

**Выжейописанный** *прым. Тое, што і* вышейописаный. маетъ еднакъ Іерей мажȣчи выжей описанныи члонки, въскорѣ мазати, абы вси члонки помастилъ, нимъ разъ тылко ѡдмовитъ сію Формȣ мѵропомазаніѧ (Зб. вып., 17).

**Выжейписаный** *прым. Тое, што і* вышейписаный. веджо те вси речи выжейписаные звѣрхности нашой Господарской зостановеные розказали есмо по торгомъ и мѣстомъ нашимъ явнѣ выволати (СДГВ, 68, 1539).

**Выжейпомененный** *прым. Тое, што і* вышейпомененый. Сѵноди Енералныи... выжейпомененныи, что намъ до вѣреніѧ зоставили? (Зб. вып., 93б).

**Выжелъ** *наз. Выжал.* коней своихъ не мають въ людей нашихъ ставити и хорътей и выжъловъ въ домехъ ихъ не маютъ ховати и ихъ кормити (КПД, 72, 1529); въ ночи зъ двора моего вывелъ выжла рудого Сколиша и нетъ ведома, где его поделъ (АВК, XVII, 326, 1541); послала ему иноходника и выжла одным пахолкомъ (Трыст., 18); за выжла две копе грошеˢ, за ȣзлаˢника звериного три копы грошеˢ (Ст. 1588, 517).

**Выженути** *дзеясл. Выгнаць.* выжени насмевача и выидеть за нимъ сваръ (Скар. ПС, 34); коли цар приˢде з воˢны, мене выженет а иншую женȣ поˢме (Алекс., 2); Ижденȣ: Выженȣ, або выганѧю (Бяр., 53); если нас ты хочеш мети ты ег з манастырꙗ выжен (Зб. 82, 2).

**Выжеописаный** *прым. Тое, што і* вышеописаный. на свыхъ парафіяхъ, кромѣ тыхъ осимъ выже описаныхъ, маютъ зоставати (АВК, III, 196, 1746).

**Выжепомененый** *прым. Тое, што і* вышепомененый. подданые его королевскои милости тыхъ селъ выжепомененыхъ... на исповѣдь святую ходити... маютъ (АВК, III, 196, 1746).

**Выжечи** *дзеясл. Спаліць, папаліць, выпаліць.* твоѣ люди зъ твоее земли пришодши безвѣстьно, сеѣ весны, канунъ Николина дня, войною, подъ городъ нашъ Мценескъ, мѣсто выжьгли, села повоевали и многіи шкоды починили, и люди головами въ полонъ повели (АЗР, I, 71, 1456); люди непрыятеля нашого великого князя Московского вси именья его

выбрали и выжгли (КЗ, 830, 1502); ȣдарили есмо на градъ сицелѣхъ и выжгли (Скар. ПЦ, 62б); если бы мȣжикъ мȣжикȣ границȣ сказилъ ѡгнемъ выжогъ (КВЗС, 25б, 1537); панъ Богуфалъ... того именья его кгвалтовнымъ обычаемъ границы вырубати, а иншие огнемъ выжечи мелъ (АВК, XXI, 82, 1555); тебе хочетъ забить, або домъ твой огнемъ выжечь, а Станислава ткача такимъ же обычаемъ забить або выжечь (АВК, XVIII, 57, 1584); хто бы кгвалтовне ȣмыслне... злодеˢскимъ ѡбычаемъ дерево бортное ѡчер або зжогъ або знамена вырȣбал або ѡгнемъ выжогъ (Ст. 1588, 388—389); ѡболок ѡныˢ выпȣстил присок горѧчиˢ и попел которыˢ пал на землю и на дахах вышше пѧды и выжог всю травȣ на поли и всюды (Бельск., 314б); на пана Свиду поведилъ: я его альбо забью, альбо выжгу и прочь поеду (АВК, XVIII, 262, 1622); затопила вода мало не все мѣсто, а част позосталȣю котораѧ была на высшом положеню ѡгон выжеглъ (Зб. 82, 206б).

**Выжжарище** *наз. Выжарышча.* панъ Свѣтицкій повѣдилъ, ижъ то не есть рѣка Оръ, але рѣчка зъ озера выходить и выжжарище, а отъ Велихова якобы на трои стаи вынурилася опять рѣка Оръ и идеть якобы на милю (АСД, I, 64, 1546).

**Выжженый, выжжоный, вызженый** *дзеепрым. ад* выжечи. въ томъ дубе была грань, але дей скажено недавно и выжжено (АВК, XVII, 303, 1541); грани старые зарослые... выкажены и выжжены (АСД, I, 53, 1546); Потомъ прывели до другое сосны спаленое, у которой тежъ менили быти грани и повѣдили ижъ вызжены (Там жа, 106, 1571); также у дубе старомъ великомъ, граница выжжена и вычерчона, а опаленъ ажъ до самого верху (АВК, XVIII, 98—99, 1592); Отъ тое сосны панове Головки черезъ дорогу... пенъ сосновый вырубаный и выжжоный (АЮЗР, II, 82, 1633).

**Выжженье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* выжечи. панъ Фалимеръ того позва передъ нами показати не хотелъ, жадного скаженья границы и выжженья передъ нами не показалъ (АВК, XXI, 82, 1555); за попсоване границы и выжжене знаковъ чого значне довели и тою жъ прысегою ствердили, вины мне подкоморому копу гршей а всег сумою сто сорокъ пят копъ гршей литовскихъ на пану кухмистру (АВК, XXX, 375, 1608).

**Выжжоный** *гл.* выжженый

**Выживенье, виживенье, выжывенье** *наз. Пракармленне, прахарчаванне, утрыманне.* такъ тежъ шпитали тепломъ и людей въ нихъ мѣшкаючихъ убогихъ вшелякого стану выживеньемъ опатруютъ (АВК, X, 8, 1538); К тому еще повинни родители научити сыновъ своих мастерства або ремества ѧкого побожного, абы ѡт него слушное выживенье напотомъ мели (Будны, 61); князь Осинъ его милости тотъ дворецъ Стайки... в держанье подалъ, гдежъ они не могучы меть ни откуль слушного выжывенья (АВК, XXXI, 33, 1570); матце своей... до



жывота ее описалъ дей ей выжывенье стравою и оденьемъ давать и оную опатровать ажъ до ее смерти (АВК, XX, 116, 1596); детемъ ее никоторыхъ пожытковъ... такъ на выжывенье, на одежу, яко и на науку, не даешь и давати не хочешъ (ИЮМ, XXIII, 404, 1623); акторка домавяласе на выживене датъку зъ части до росправы (ИЮМ, IX, 449, 1643); был кононъ до ѡгородов способныˢ, и с того собѣ мѣлъ виживене (Пралог, 490); кождыˢ з нас поˢдемо где быхмо выживене мѣли (Зб. 82, 244); Игнату кравцу до турмы на выжывене дали на свято (ИЮМ, XIII, 17, 1699). *Парайн.* выживленье.

**Выживити** *дзеясл. Пракарміць.* Тѣлеснаа рѣчˢ есть, не оубити на тѣле, не пособити биючому, не радити на ȣбийство, боронити оных которих бы кто кривдити хотѣлъ, часу голоду выховати або выживити (Будны, 76).

**Выживитися** *дзеясл., зв. ад* выживити. Богданъ Осеевичъ... на хлеба кармлене землицы в себе не маетъ... а с тое выховатися и выживитися не могъ (ИЮМ, XXI, 255, 1565).

**Выживление** *гл.* выживленье

**Выживленый** *дзеепрым. ад* выживити. хто голодныˢ ест, нехаˢ бежить до хста, бо ѡнъ ест хлѣбъ истинныˢ живыˢ, которымъ дш҃и наши выживленые (Зб. 259, 243б—244).

**Выживленье, выживление, выжывленье** *наз. Тое, што і* выживенье. на выживленье свещеннику Елисееви Ефремовичу и будучимъ по немъ свещенникомъ при той церкви надали есмо земле на тріехъ мѣстыхъ (АВК, II, 1, 1431); на се я дала пречестному митрополитѣ сто копъ пѣнязей белыхъ грошій литовскихъ, а на выживленіе чернцовъ сіе имѣніе мое (АВК, XI, 10, 1517); До тогожъ въ кождый годъ, часу жнива, по копѣ жита съ кождое волоки... выбирати и на выживленіе свое оборочати вѣчными часы (АВК, III, 25, 1605); иншые... сами детей своихъ здоровыхъ, сиротами называючи, посылаютъ пожытокъ собе въ томъ всемъ и слушъное выжывлене а въ браню ялмужныхъ ошукане чынятъ (ИЮМ, VIII, 368, 1621).

**Выживляти** *дзеясл. Ажыўляць.* вси народове, поколѣнѧ, и ѧзыки держали и боѧлисѧ его, которих хотѣл забивал, а которих хотѣл, выживлѧл (Біблія, 54б).

**Выжина, вызина** *наз. Тое, што і* вышиня *ў* 1 *знач.* ȣказалсѧ самоил выходѧчи противко имъ, абы вступил на выжинȣ (Біблія, 313); зышли до мѣста з вызины (Хран., 208); Выжины были теж ѡлтари ѡсобныи на которых ѡфѣровано бг҃ȣ правдивомȣ (Выкл., 78б).

**Выжити** *дзеясл.* **1.** *Пражыць.* коли три годы выжывуть, ино имъ служить намъ съ того села потому, какъ продокъ ихъ Ильяшъ служилъ панцеромъ съ бояры нашими посполите (АЮЗР, I, 236, 1590).

**2.** *Паправіцца, ачуняць, стаць здаровым.* естли бы тому хрестянинȣ ѡчи выжили въ десяти недѣляхъ (КСД, 1311, 1519).

